# БЮЛЕТЭНЬ

**Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.**

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканок. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

**№ 5 (40)** | **25-га красавіка 1930 году** | **№ 5 (40)**

## ЗЬМЕСТ



*Усім рабачкомам саюзу сельгаслесрабочых. Акруговым і раённым інструктарам.*

### Аб правядзеньні працдагаворнай кампаніі на Батрацтва.

1) Шырокае ўцягненьне батрацкіх і бядняцка—серадняцкіх мас у калгасны рух склала рашучы пералом у разьвіцьці сельскай гаспадаркі ў бок масавай калектывізацыі, што дало пэўныя падставы партыі і савецкай уладзе перайсьці да практычнай работы ад палітыкі абмежаваньня эксплёататарскіх тэндэнцый кулацтва да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы.

У раёнах суцэльнай калектывізацыі партыя дабілася максімальнай ізаляцыі кулака і максімальнага сплачэньня шырокіх батрацкіх і бядняцка—серадняцкіх мас вакол палітыкі партыі, вакол лёзунгаў сацыялістычныя рэканструкцыі сельскай гаспарэркі. Гэтыя асноўнейшыя палітычныя ўмовы ў значнай ступені палегчаючыя правядзеньне мераприёмств па ліквідацыі кулацтва, як клясы, адсутнічаюць па-за раёнамі суцэльнай калектывізацыі.

**Арганізуем адпор кулацтву.**

2) У бягучую працдагаворную кампанію ва ўмовах абвастрыўшайся клясавай барацьбы, кулацтва не абмяжуецца спробамі патаёмнай эксплёатацыі батрацтва, а ў асобных выпадках будзе прыбягаць да тэрарэстычных актаў (забойства, падпал) як у адносіне батрацкага актыву, прафпрацаўнікоў, так і ў адносіне маёмасьці саўгасаў і калгасаў. Наш саюз павінен быць падрыхтаваны да рашучай барацьбы з такога роду праявамі кулацтва. Мы павінны мабілізаваць шырокія масы батрацтва і ўсяго вясковага актыву, каб своечасова папярэдзіць такія імкненьні кулацтва і даць ім рашучы адпор. Кожны пацярпеўшы ад кулацкага тэрору павінен знайсьці належную патрымку і дапамогу як саюзу, так і іншых арганізацый.

3) Перабудова дробнай бядняцка—серадняцкай гаспадаркі ў буйную калектыўную ставіць перад нашым саюзам у першую чаргу наступную асноўнейшую задачу:

а/ Да вясеньняй пасеўнай кампаніі поўнасьцю выканаць плянавае заданьне саюзу па ўцягненьні ў калгасы ня менш,

як 60 тысяч батрацтва, поўнасьцю ўцягнуць у калгасы батрацтва і пастушаства ў раёнах суцэльнай калектывізацыі.

б) Разам з уцягненьнем батрацтва ў калгасы, безадкладна арганізоўваць у калгасах батрацка-бядняцкія групы, дапамагаючы гэтым групам ачысьціць калгасы ад варожых элемэнтаў кулакоў, нэпманаў і інш. Забяспечыць у калгасах кіруючую ролю за батрацка—бядняцкай групай.

в) Перанесьці ў калгасы вопыт саўгасаў па арганізацыі вытворчасьці і працы і гэтым самым дапамагчы найхутчэй гаспадарча арганізавацца і ўзмацніцца калгасам.

4) Паколькі кулацтва ў раёнах ня суцэльнай калектывізацыі і значная частка серадняцка—бядньцкага сялянства яшчэ не калектывізаванага, вядома, будуць карыстаць наймовую працоўную сілу батракоў, батрачак і грамадзкіх пастухоў, паколькі работа нашага саюзу ў 1930 годзе па абароне эканамічных і правовых інтарэсаў батрацтва і пастушаства павінна заняць адказьнейшае месца ў рабоце ўсіх саюзных органаў і ўсяго саюзнага актыву на мясцох.

## I. Задачы саюзу ў раёнах суцэльнай калектывізацыі.

I. Замест практыкаваўшыхся да гэтага часу мэтадаў абарончай работы батрацтва, саюз павінен у раёнах суцэльнай калектывізацыі:

а) Аб'яднаць батрацка—бядняцкія масы вакол органаў дыктатуры пралетарыяту і задач ліквідацыі кулацтва. як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі пазбаўляючы кулака магчымасьці гаспадарчага існаваньня, не дазваляючы кулацтву карыстаньне наймовай працоўнай сілы.

б) Уцягнуць усіх батракоў і пастухоў у калгасы і саўгасы. Арганізаваць сыстэматычную праверку, як ажыцьцяўляюцца на мясцох пастанова ўраду на забясьпячэньні батракоў—калгасьнікаў работай, аплатай за работу, кватэрамі, прадуктамі харчаваньня і г. д.

в) Не дазволіць карыстаньне наймовай батрацкай сілай у калгасах, а ўцягваць працуючых па найму ў калгасах батракоў у члены калгасаў.

г) Не дапусьціць найму калгасьнікамі пастухоў і падпаскаў для пасьбы сваей неабагуленай жывёлы, бо такая (пасьба) павінна ўтварацца пастухом членам калгасу.

д) У выпадках, калі райвыканкомамі будзе дазволены ў парадку выключэньня ў асобным пэрыяду наём у серадняцкіх гаспадарках, поўнасьцю ахапіць усіх працуючых па найму працдагаворамі і сацстрахаваньнем.

е) Поўнасьцю ахапіць калдагаворамі наймовую працу кваліфікаваных рабочых і спэцыялістых у калгасах машынна—трактарных станцыях, каапeрацыйных прадпрыёмствах і г. д.

## I. Задачы саюзу ў раёнах ня суцэльнай калектывізацыі.

1) Арганізаваць актыўны ўдзел батрацтва і пастушаства ў мерапрыёмствах па сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. масавай калектывізацыі бядняцка—серадняцкіх гаспадарак, уцягненьне ў калгасы батрацтва і пастушаства, абмежаваньні эксплёататарскіх тэндэнцыі кулака і яго выцясьненьні, як клясавага ворага.

2) Поўнасьцю ахапіць усё батрацтва і пастушаства працдагаворамі і сацстрахаваньнем.

3) Узмацніць абарончую работу батрацтва і пастушаства, шляхам арганізацыі актыўнасьці саміх батракоў і пастухоў у запатрабаваньнях па зарплаце, сацстрахаваньні, спэцвопратцы, рабочым дню, дню адпачынку, выплаты зарплаты штомесячна і праз касы ашчаднасьці да наймальнікаў, арганізоўваючы, дзе гэта патрэбна, стачкі і байкоты батракоў і пастухоў у адносіне да кулакоў наймальнікаў.

## III Нашы саюзныя запатрабаваньні пры заключэньні працдагавораў.

а) Да кулацкіх гаспадарак.

1) Да кулацкіх гаспадарак павінны быць прад'яўлены запатрабаваньні пераўышаючыя Кодэкс Законаў аб працы. Сьпісы гаспадарак, на якія распаўсюджваецца, КЗаП, павінны быць пераглежданы з тым, каб "Часовыя Правілы" былі распаўсюджаны толькі на гаспадаркі працоўнага тыпу.

2) Зарплата батракоў і батрачак павінна быць ня ніжэй наступнай а) дарослым батракам і батрачкам, апрача харчоў, 35 руб. у м-ц. б) падросткам батракам і батрачкам, апрача харчоў, 25 руб. у м-ц. Натуральная частка зарплаты не павінна быць вышэй 1/3 усяго заробку.

3) Выплачваць зарплату батраком і батрачкам штомесячна праз ашчадныя касы па кніжцы на імя батрака ці батрачкі.

4) Усе батракі і батрачкі павінны быць застрахаваны ў абавязкавым парадку. згодна закону аб сацыяльным страхаваньні.

5) Рабочы дзень павінен быць цвёрда захаваны для дарослых 8 гадзін і падросткаў 16-17-ці гадовага ўзросту 6 гадзін. Павялічэньне працоўнага дню ў пэрыяды палявых работ ні ў якім разе не павінна дапушчацца.

6) Не дапусьціць найму кулацкімі гаспадаркамі малалетніх батракоў (да 16-ці гадовага ўзросту). У выпадках найму малалетніх прыцягваць наймальнікаў кулакоў да адказнасьці.

7) Дні адпачынку і водпускі павінны быць цьвёрда ўстаноўлены і поўнасьцю выкарыстаны батракамі і батрачкамі. Нормы спэцвопраткі павінны быць вышэй норм НКП. Спэцвопратка павінна быць выдана батраку па дагавору ў дзень заключэньня дагавору.

8) Дзённыя стаўкі падзённым рабочым павінны быць ня ніжэй наступных

а) Дарослым батракам і батрачкам на гаспадарчых харчах 5 руб. у дзень:

б) Падросткам батракам і батрачкам на гаспадарскіх харчах 2р. 50к. у дзень. Працдагаворная работа ў адносіне падзённага найму павінна быць так пабудавана. каб зрабіць падзённы наём найменш карысным для наймальнікаў кулакоў.

в) Дабіцца, каб харчы батракоў былі аднолькавыя з харчамі наймальнікаў і каб яда давалася батракам ня менш 4-х разоў у дзень.

9) Усе няпісьменныя батракі і батрачкі павінны адпускацца наймальнікамі ў лікпункты і школы малапісьменных.

10) У выпадкх часовай непрацаздольнасьці батрака ці батрачкі па хваробе, наймальнік павінен прадстаўляць захварэўшаму кватэру і харчы ў працягу 4-х месяцаў.

11) Налічэньні па працдагаворах у саюз павінны быць ня ніжэй 6% ад зарплаты.

12) Кулацкія гаспадаркі павінны утвараць наём працоўнай батрацкай сілы толькі праз сельрабачкомы.

б) Да серадняцка--бядняцкіх гаспадарак.

1) Пры заключэньні працдагавораў трэба вельмі ўважліва адносіцца і ўлічваць характар наймаючай гаспадаркі, маючы на ўвазе, што "Часовыя Правілы" павінны распаўсюджвацца толькі на гаспадаркі працоўнага тыпу, якія наймаюць працоўную сілу, як дапаможную (адсутнасьць працаздольнага работніка ў гаспадарцы).

2) Працдагаворамі ахапіць усіх батракоў і батрачак, працуючых у серадняцка гаспадарках.

3) Зарплата батракам і батрачкам у гэткіх гаспадарках павіна быць ня ніжэй зарплаты, адпаведных рабочык саўгасаў, г. зн. наступная: а) дарослым батракам і батрачкам, апрача харчэй, 25 руб. у месяц , б) падросткам батракам і батрачкам, апрача харчоў, 18 р.

4) Дабіцца поўнага ахопу добраахвотным сацстрахаваньнем батрацтва.

5) Рабочы дзень у пэрыяд напружаных палявых работ (пасеў уборка), можа быць павялічаны да 10 гадзін дарослым батракам і батрачкам і да 8 гадзін падросткам 16-17-ці гадовага ўзросту пры ўмовах павялічэньня зарплаты за гэтыя 2 гадзіны ня менш як 25%.

6) Натуральная частка зарплаты не павінна перавышаць 1/2 агульнай зарплаты.

7) Дзённыя стаўкі зарплаты падзённым рабочым павінны быць ня ніжэй наступных: а) дарослым батракам і батрачкам, апрача харчоў 3 руб. у дзень; б) падросткам батракам і батрачкам, апрача харчоў, 1 руб. 50 кап. дзень.

8) Дні адпачынку і водпускі павінны быць цьвёрда ўстаноўленыў працдагаворах і поўнасьцю выкарыстаны батракамі і батрачкамі. Спэцвопратка павінна быць выдана натурай, па норме паказанай у працдагаворах.

9) Дабіцца штомесячнай выплаты зарплаты батракам і батрачкам праз ашчадкасы па кніжках на імя батракоў.

10) Усе няпісьменныя батракі і батрачкі павінны адпускацца наймальнікамі ў лікпункты і школы малапісьменных.

11) Налічэньні па працдагаворах у саюз павінны быць у разьмеры 3 проц.

12) Харчы батракам і батрачкам павінны быць аднолькавыя з харчамі наймальнікаў і яда давацца ня менш 3—х разоў у дзень.

13) Непрацаздольным батракам і батрачкам па хваробе ў не залежнасьці ад застрахаваньня, наймальнікамі павінна прадстаўляцца кватэра і харчы ў працягу 2-х месяцаў, а калі батрак ці батрачка на застрахаваны, дык і зарплата.

### Да сялянскіх грамад у адносіне грамадзкіх пастухоў.

1) Пры заключэньні працдагавороў з сялянскімі грамадамі, неабходна асноўную ўвагу зьвярнуць на ўстанаўленьне дэфэрэнцыяванай аплаты працы пастухоў і падпаскаў, гэта значыць—на ўстанаўленьне розных разьмераў зарплаты ў залежнасьці ад заможнасьці насельніцтва вёскі, колькасьці галоў у стадзе, пры чым, кулак павінен значна больш плаціць за кожную адзінку яго жывёлы, чым сараднян і бедняк. Зарплата пастуха павінна быць ня ніжэй наступнай: а) стада да 50-галоў-40 руб. у м-ц: б) стада ад 51 да 60 галоў-50 руб. у м-ц; в) стада ад 61 да 70 галоў-60 руб. у м-ц, апрача харчоў,

г) Зарплата падпаска павінна быць ня ніжэй 30 руб. у м-ц пры чым ў залежнасьці ад стада і заможнасьці вёскі яна (зарплата) павінна падвышацца да 40 руб. у м-ц з тым, каб у сярэднім зарплата падпаска была ня ніжэй 35 р. м-ц апрача харчоў,

2) Харчаваньне і кватэра пастуха і падпаска павінна быць забясьпечана ў працягу ўсяго сэзону найму ў аднаго гаспадара. Ні ў якім разе не дапушчаецца чарговасьць харчаваньня і кватэры пастухам і падпаскам.

3) Цьвёрда ўстанавіць па працдагавору дні адпачынку і водпускі, апошнія з разьліку за кожны месяц працы-адзін дзень. Запясьпечыць прадстаўленьне выхадных дзён пастуха і падпаска кожны тыдзень, для чаго грамада павінна даваць падзьмену.

4) Спэцвопратка пастуху і падпаску павінна быць выдадзена па норме, паказаннай у працоўным дагаворы і не пазьней, як праз тыдзень пасьля найму.

5) Зарплата павінна выплачваецца кожны месяц праз упаўнаважаннага ад грамады. Трэба дабіцца, каб зарплата выплачвалася праз ашчадкасы.

6) Не працаздольным пастухам і падпаскам па хваробе наймальнікамі павінны прадстаўляцца харчы і кватэра ў працягу 2-х м-цаў. Грамадзкія пастухі і падпаскі страхуюцца ў абавязковым парадку.

Для забесьпячэньня поўнага выкананьня гэтых мінімальных і асноўных саюзных запатрабаваньняў па правовай і эканамічнай абароне батрацтва і пастушества ў час цравядзеньня працдагаворнай кампаніі ў працягу ўсяго пэрыяду найму. БелРэсп. К-т саюзу Сельгаслесрабочых прапрапануе:

### Райінструктарам саюзу.

1) Калі ня скліканы, то да 1—4/V склікаць нарады сельскіх, саўгаскіх рабачкомаў і рабачкомаў лясьніцтв, на якіх падрабязна прапрацаваць з імі гэтую дырэктыву, праінструктаваць рабачкому ў напрамку іх практычнай работы па працдагаворнай кампаніі.

2) Разам з рабачкомамі скласьці календарны плян працдагаворнай работы па раёну і па кожным рабачкому паасобку.

3) На гэтай нарадзе, як належыць, разабрацца з пунктамі працоўнага дагавору і практычна праінструктаваць, як трэба запаўняць працдагавор.

4) Дасканала ўстанавіць, якія вёскі і хутары ў раёне не калектывізаваны і гэтыя вёскі і хутары цьвёрда замацаваць за рабачкомам, уключыўшы іх у пляны рабачкомаў, для таго, каб кожны рабачком добра ведаў свой раён і каб поўнасьцю ахапіў працдагаворамі ўсё батрацтва.

5) Дасканала і яскрава растлумачыць рабачкомам разьмеры вышэйпаказанай заробнай платы батракам і батрачкам у кулацкіх гаспадарках, батракам і батрачкам у серадняцкіх гаспадарках і грамадзкім пастухам і падпаскам.

6) Дагаварыцца з раённай касай ашчаднасьці аб тэрміновай падрыхтоўцы

яе да мерапрыёмств па атрыманьні ад наймальнікоў зарплаты батракоў і пастухоў і, аб арганізацыі бесьперабойнай выдачы зарплаты батракам і пастухам па іх запатрабаваньнях.

7) Наладзіць плянавую і рэгулярную праверку і дапамогу рабачкомам у правядзеньні працдагаворнай кампаніі.

8) Акруговым упаўнаважаным і райінструктарам саюзу дагаварыцца з РВК і АВК аб хутчэйшай выдачы апошнімі пастаноў пра памеры дзённай стаўкі зарплаты падзённым рабочым, якія будуць наймацца ў час уборачных работ. Трэба дабіцца, каб гэтыя дзённыя стаўкі рабочых у кулацкіх і серадняцкіх гаспадарках былі ня ніжэй вышэйпаказанных.

9) Устаноўленыя стаўкі разьмераў дзённай зарплаты давесьці да шырокіх мас батрацтва, шляхам зьмяшчэньня іх у газэтах, вывешваньня іх на відных мясцох у с/с, рабачкомах, клюбах хатах-чытальнях і дамох батрака.

10) Безадкладна праверыць, як падрыхтаваліся саветы і другія арганізацыі, зьвязаныя з правядзеньнем працдагаворнай работы.

а) *Сельсаветы.* Перагледжаны ці не сьпісы гаспадарак, на якія распаўсюджваецца агульная заканадаўства, як забясьпечана рэгістрацыя працдагавораў, ці арганізаваны сэкцыі па працы.

б) *Страхкасы.* Маюць ці не ўпаўнаважаныя ці сацстраху сьпісы кулацкіх гаспадарак, як ідзе работа па растлумачэньні новага закону аб сацстрахаваньні батрацтва сярод батракоў і пастухоў і выгоднасьці дообраахвотнага страхаваньня батракоў гаспадаркамі працоўнага тыпу сярод наймальнікаў. Як ідзе ўзысканьне запазычнасьці па страховых узносах з кулакоў, як падрыхтаваны раённыя ўпаўнаважаныя да правядзеньня ў жыцьцё новага закону аб сацстрахаваньні (забясьпечаньне батракоў дапамогай, пэнсія і г. д.).

в) *Органы аховы здароў'я.* Як арганізавана мэддапамога батракам мясцовымі больніцамі, амбуляторыямі, ўрачэбнымі і фэльчарскімі пунктамі. Забясьпечана ці не дапамога батраку ў першую чаргу, як забясьпечана лекавая дапамога, выдача бальнічных лісткоў захварэўшым.

г) *Каапэрацыя.* Як арганізавана работа па ўцягненьні батрацтва ў члены каапэрацыі, як наладжана забясьпечэньне батрацтва прадуктамі і таварамі шырокага спажываньня.

д) *Саўгасы.* Як ажыцьцяўляюцца дырэктывы саюзу аб прыняцьці на работу ў саўгасы ў першую чаргу беспрацоўных батракоў і батрачак, дэмабілізованых чырвонаармейцаў з батракоў і наогул членаў саюзу.

е) *Дамы батрака.* Як падрыхтаваны дамы батрака да працдагаворнай кампаніі, ці забясьцачаны яны літаратурай, пляатамы, законамі па абароне батрацтва, газэтамі. Як вядзецца работа ў дамох батрака, хатах-чытальнях, вёсках па растлумачэньні задач працдагаворнай кампаніі.

ж) Як пастаўлена работа ў судах па разгляду батрацкіх іскавых спраў, а таксама спраў па прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці наймальнікаў кулакоў за парушэньні законадаўства аб працы, працдагавораў і г. д.

11) Вакол усей гэтай работы мабілізаваць практычны ўдзел савёцкіх і грамадзкіх арганізацый. Усю гэту работу ўвязаць з мясцовымі партыйнымі арганізацыямі.

12) Разам з правядзеньнем работы па заключэньні працдагавораў правесьці дэталёвую праверку выконваемасьці наймальнікамі працдагавораў, заключаны у 1929 г. і надалей праз рабачкомы і саюзны актыў арганізаваць пэрыядычна, але ў плянавым парадку, праверку выконваемасьці працдагавораў.

### Рабачкомам,

1) Зараз-жа правесьці пасяджэньні рабачкомаў з шырокім удзелам усяго актыву. На гэтым пасяджэньні удаскаваліць плян, складзены на раённай нарадзе, а галоўнае, добра азнаёміць увесь актыў з гэтай дырэктывай. Тут—жа на пасяджэньні скласьці 2-3 брыгады па 3—4 чалавекі ў кожнай і за гэтымі брыгадамі замацаваць асобныя вёскі і групы хутароў, для правядзеньня працдагаворнай кампаніі.

2) У красавіку сіламі арганізаваных брыгад і пад кіраўніцтвам сельсаветаў правесьці агульныя сходы батракоў і пастухоў па сельсаветах, а дзе гэтага за кароткім часам нельга будзе, дык па асобных вёсках. На сходах рас-

тлумачыць батракам і пастухам усі мера-прыёмствы саюзу па абароне іх інтарэсаў, падрыхтаваць іх да таго, каб самі батракі і пастухі высоўвалі перад наймальнікамі пры заключэньні працдагавораў свае запатрабаваньні, каб яны патрабавалі выплаты ім зарплаты праз ашчадныя касы, каб іх абавязкова застрахавалі.

3) Адначасова з правядздзеньнем агульных сходаў батракоў і пастухоў правесьці праз сельсаветы і пры ўдзеле брыгадзіраў агульныя сходы сялян п, вёсках, на якіх правесьці выбары ўпаўнаважанага ад грамадзян вёскі для заключэньня працрагавораў на грамадзкага пастуха і падпаска.

4) У красавіку м-ца практычна прыступіць да плянавай работы па заключэньні працдагавораў на батракоў і грамадзкіх пастухоў.

5) Пры заключэньні працдагавораў трэба вельмі ўважліва аднесьціся да запаўненьня блянку дагавору. Усе пункты дагавору павінны быць запоўнены чотка і яскрава, для чаго ў дзень пасяджэньня рабачкому трэба запоўніць, прыкладна, па адным экзэмпляры працоўнага дагавору кожнаму брыгадзіру. Форма працоўнага дагавору вельмі простая і не патрабуе асобнага тлумачэньня.

6) Пры заключэньні працдагавораў захаваць наступны разьмер процантных налічэньняў: па дагаворах на батрацтва ў кулацкіх гаспадарках 6 проц. па дагаворах на батракоў ў серадняцкіх гаспадарках і на грамадзкіх пастухоў 3 проц.

7) Дагаворы заключаць у 3-х паасобніках і ў працягу ня больш, як 3 х дзён пасьля заключэньня абавязкова зарэгістраваць у сельсавеце. Дагавары павінны хавацца 1 паасобнік у сельсавеце, 1 у сельрабачкоме і апошні выдаецца батраку ці пастуху разам з наймальнікам, пры чым гэты паасобнік павінен хавацца ў батрака, ці пастуха.

8) Працдагаворную кампанію скончыць.

а) На грамадзкіх пастухоў і падпаскаў да фактычнага выгану ў поле, але не пазьней 5 га мая.

б) На батракоў да 15-га мая, вядома, прыцягваючы заключэньне дагавору і далей, калі наём будзе працягваецца і пасьля 15-га мая.

9) Усім рабачкомам наладзіць своечасовую інфармацыыю БелРэсКа саюзу аб ходзе работы па заключэньні працдагавораў, рэгулярна высылаючы зьвесткі на 1-е і 15-е чысло кожнага месяца па наступнай, зусім простай, форме:

1. Лічыцца на тэрыторыі рабачкому не калектывізаваных батракоў і пастухоў: мужчын ......чал., з іх дарослых ...... чал., жанчын ......чал., з іх дарослых ...... чал.

2. Заключана працдагавораў на батракоў ......з іх: на мужчын дарослых ...... даг., падлёткаў ...... даг., на жанчын дарослых ...... даг., падлёткаў ...... даг.

3. Заключана працдагавораў на грамадзкіх пастухоў ......даг. Пры пастухах падпаскаў ......чал.

4. Сярэдняя зарплата ў месяц:
а) даросламу батраку ...... руб., дарослай батрачцы ...... руб., б) падлётку батраку ...... руб., падлётку батрачцы ...... руб, в) пастуху ...... руб., падпаску ...... руб,

5. Застрахавана батракоў батрач. ч.

10) Блянкі процоўных дагавораў на батракоў і грамадзкіх пастухоў разам з гэтай дырэктывай высылаюцца ў адрэсы раённых інструктароў саюзу.

Арыгінал падпісаны:

Старшыня БелРэсКа
Саюзу **Манжалей**

Заг. Калгасна-Батрацкім
Сэктарам **Вяжэвіч**

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы ССР

**20 сакавіка 1930 г. № 21**

„Пра парадак найму і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў."

Для разьвіцьця арт. 17 пастановы СНК БССР за 16/IX-1929г. „Пра парадак ужываньня часовых правіл, зацьверджаных СНК СССР аб ужываньні дапаможнаеа наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках „(З. З БССР 1929 г. №43 арт. 250), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Гэта пастанова пашыраецца на грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, якія працуюць па найму ў зямельных грамадах, а таксама ў груп уладыроў жывёлы.

Умовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, якія працуюць па найму ў гарадох рэгулююцца кодэксам закону аб працы.

УВАГА: Пастанова гэта не распаўсюджваецца на пастухоў адзіночак, якія працуюць у асобных сялянскіх гаспадарках.

2. Умовы найму пастухоў і падпаскаў вызначаюцца па ўзаемнай згодзе наймальнікаў (Зямельнай Грамады, групы уладыроў жывёлы) з пастухамі і падпаскамі, альбо з Прафэсыйным Саюзам Сельска-гаспадарчых і лясных рабочых, дзейнічаючым ад іх імя. Пры найме пастухоў і падпаскаў наймальнікі павінны зрабіць з імі альбо з Прафэсыйным Саюзам працоўны дагавору і выдаць разьліковы ліст па устаноўленай Наркампрацы форме.

3. Усе працоўныя дагаворы, якія пагаршаюць становішча пастухоў і падпас. каў у параўнаньні з гэтай пастановай незаконны і ня маюць сілы.

4. Зямельныя грамады і групы ўладароў жывёлы, каб несьці перегаворы аб найме пастухоў і падпаскаў і рабіць з імі працоўныя дагаворы абіраюць упаўнаважаных, якім даюцца прыгаворы агульных сходаў, пратаколы аб іх абраньні пасьведчаныя сельскім саветам.

Сход грамадзян, якія наймаюць пастуха, склікаецца па даручэньні сельскага савету адным з яго членаў.

Выбары упаўнаважанага робяцца і лічацца законннымі калі лік грамадзян якія адмовіліся і адсутнічалі, ня будзе перавышаць 50% усіх наймальнікаў.

Колькасьць упаўнаважаных павінна быць наступная: да 25 наймальнікаў адзін, больш 25-2.

Выбараныя упаўнаважаныя ня маюць права адмаўляцца ад выкананьня сваіх абавязкаў.

5. У выпадку патрэбы найму падпаску на дапамогу пастуху – наём падпаскаў робіцца наймальнікам па згодзе з пастухом.

6. У працоўным дагаворы павінна быць паказаны:

а) склад стада (аднолькавае, альбо мешанае) і колькасьць жывёлы у стадзе: буйнай і дробнай,

б) тэрмін найму) працяжнасьць тэрміну найму, таксама дзень і месяц найму і скančэньня тэрміну найму,

в) час пачатку і скančэньня пасьбы днём і вечарам,

г) парадак і месца збору жывёлы перад выгонам на пасьбу і прыгону з пасьбы,

7. Забараняецца наём пастухоў і падпаскаў маладзей 14 год.

8. Заработная плата пастухам і падпаскам устанаўляецца ў працоўным дагаворы кожнаму паасобку і ня можа быць ніжэй дзяўжаўнага мінімума, устаноўленага для данай мясцовасьці, выплата зарплаты вытвараецца не радзей 1 разу ў месяц.

9. Выплата заработнай платы пастухам і падпаскам робіцца упаўнаважаным наймальніка, якія павінны своечасова да тэрміну выплаты заработнай платы сабраць яе з уладароў жывёлы, пры чым заработная плата павінна разьмяркоўвацца па клясаваму прынцыпу, з такім разьлікам, каб кулакі плацілі больш за серыднякоў, а серыднякі больш за беднякоў.

У першыя месяцы упаўнаважаны зьбірае грошы з кулакоў і больш заможных, потым з серыднякоў, а ў апошнюю чаргу з беднякоў.

10. Усе разьлікі па заработнай плаце з пастухамі і падпаскамі запісваюцца у разьліковым лісьце пры выплаце зарплаты,

11. Наймальнікі праз свайго ўпаўнаважанага павінны даваць бясплатна пастухам і падпаскам неабходную рабочую вопратку і абутак, пры чым нормы і якасьць іх устанаўляецца па згодзе старон у працоўным дагаворы, але ня ніжэй па 1 пары скураных ботаў і па аднаму плашчу пастуху і падпаску на сэзон.

Рабочая вопратка і абутак не залічваюцца у заработную плату і па скančэньні пасьбі астаюцца ў пастухоў і падпаскаў.

12. Пастухам і падпаскам, якія ня маюць свайго жыльля, наймальнікі праз свайго ўпаўнаважанага павінны даць памяшканьне, годнае для жыльля. Парадак дачы пастухам і падпаскам жыльля

і харчэй устанаўляецца па згодзе старон.

13. Наймальнік павінен даваць пастухам і падпаскам праз кожныя 5 дзён 1 дзень для адпачынку і зьвальняць іх ад работы ва ўстаноўленыя законам рэвалюцыйныя сьвяты. У выпадку немагчымасьці даць пастухам і падпаскам у дзень адпачынку, наймальнік павінен выплачваць ім за работу ў гэтыя дні у падвайным разьмеры.

Замена рэвалюцыйных сьвят іншымі днямі забараняецца.

14. Наймальнікі ня маюць права рабіць самавольна утрыманьні і вылікі з заработнай платы пастухоў і падпаскаў.

За патравы, параненьне і згубу жывёлы, якія зробяцца пры нэрвовым узбуджэньні у час „гілю" і „паляваньня" пастухі і падпаскі не адказваюць.

15. Калі ў стада пушчаецца жывёла якая б'ецца, уладары жывёлы павінны папярэджваць аб гэтым пастуха і рабіць патрэбныя захады забясьпекі, напрыклад набіваць на рагі дошкі і да таго пад.

16. Пастухі ня маюць права прыймаць у стада жывёлу, якая не належыць наймальнікам без дазволу на гэта ўпаўнаважанага.

17. Звольніць пастуха і падпаска да сканчэньня тэрміну працоўнага дагавору наймальнік мае права толькі тады калі ёсьць на гэта важная прычына, з абавязковым папярэджаньнем аб гэтым звальняемага ня менш як за 2 тыдні. У выпадку звальненьня пастухоў і падпаскаў раней тэрміну найму—наймальнік павінен заплаціць звальняемаму заработную плату за прапрацаваны час і выхадную дапамогу ў разьмеры, якая вызначаецца ў працоўным дагаворы, але ня менш 2—х тыднёвага заработку. Пастухі альбо падпаскі пры ўходзе ад наймальніка павінны папярэдзіць упаўнав족жанага аб сваім уходзе за 2 тыдні.

18. У выпадку хваробы пастуха, альбо падпаска, наймальнік павінен вызваліць яго ад работы, даваць жыльлё і харчы.

а) за ўвесь час хваробы, але ня больш 2 месяцаў, калі пастух наняты на тэрмін больш 6 месяцаў і працаваў у наймальніка больш 1 м—ца.

б) за час хваробы, але ня больш як на працягу 1 месяцу, калі пастух альбо падпасак наняты на тэрмін да 6 мес. і працаваў менш месяца.

19. Рабочы час пастухоў альбо падпаскаў ня можа правышаць 10-ці гадзін у дзень.

20. Канфлікты, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовай працы пастухоў і падпаскаў—вырашаецца альбо міравой камеры пры С/С, РВК, ці працэсіі.

21. Наймальнікі, віноўныя ў невыкананьні гэтай пастановы прыцягваюцца да судовай альбо адміністрацыйнай адказнасьці, праз накладаньне штрафу да 100 руб.

22. З выданьнем гэтай пастановы касуецца пастанова НКП БССР за 1/IV 27 г. №50 (Бюл. СНК 1927 г. №7) пастанова НКП БССР за 26 (XII-26 г.№81) (Бюл. СНК 1928 г. №15), Абежнік НКП БССР за 27/ IX-28 г. №60 (Бюл. СНК 1928 г. №12).

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР **Саламонаў**

Ст. Сельс. гаспадарчы Інспэктар **Марозаў**

## ПРАВИЛА

### о социальном страховании лиц, занятых по найму в крестьянских хозяйствах

*Утвержденные союзным советом социального страхования при НКТ СССР от 2 января 1930 г. за № 11*

#### 1. Размер взноса на социальное страхование

1. Кулацкие крестьянские хозяйства (пост. СНК СССР от 21 мая 1929 г. о признаках кулацких хозяйств. Собр. Зак. СССР, 1929 г.№34, ст, 301[1]) страхуют в обязательном порядке всех работающих у них по найму лиц, в том числе и занятых в производственных, торговых и подсобных предприятиях.

Страховые взносы за этих работников уплачиваются в размере двадцати двух процентов на заработную плату.

2. Трудовые (бедняцкие и середняцкие) крестьянские хозяйства, на которые распространяются временные правило о

применении подсобного наемнага труда в трудовых крестьянских хозяйствах, утвержденные СНК СССР 11 июля 1919 г, (Сбор. Зак. СССР, 1929 г. №46, ст. 402) могут сраховать работающих у них по найму лиц в добровольном порядке, уплачивая за них страховые взносы в размере трех процентов на заработную плату.

3. Сельские (земельные) общества, части их и группы сельских хозяев, нанимающие общественных пастухов, страхуют их в обязательном порядке и уплачивают за них страховые взносы в размере десяти процентов на заработную плату.

За пастухов, нанимаемых групами кулацких хозяйств, страховые взносы уплачиваются в размере двадцати двух процентов.

На пастухов, работающих по найму у нанимателей, проживающих в городах и поселениях городского типа, настоящие Правила не распространяются,

4. Коллективные хозяйства (сельскохозяственные товарищества, артели и коммуны) страхуют работающих у них по найму лиц в обязательном порядке и уплачивают за этих лиц, кроме указанных в ст. ст. 5, 6, и 7, страховые взносы в размере шести процентов на заработную плату.

На кооперативные организации других видов (как-то: промысловые артели и товарищества и т. п.) а также на органы, об'единяющие коллективные хозяйства и руководящие их деятельностью (союзы, секции, бюро и т. п), настоящие Правила не распространяются.

5. За лиц, работающих в принадлежащих коллективным хозяйствам предприятиях, обслуживающих полностью или преимущественно технические и транспортные нужды этих хозяйств или обслуживающих в агрикультурном отношении окрестное крестьянское население (ремонтные мастерские, тракторные колонны, прокатные пункты, лаборатории, кузницы и т. п.), а также за лиц конторского и технического персонала, работающих по найму в этих хозяйствах, страховые взносы уплачиваются в размере десяти процентов на заработную плату.

6. За лиц, работающих по найму в принадлежащих коллективным хозяйствам предприятиях, перерабатывающих продукцию этих хозяйств, и прилегающих крестьянских хозяйств (мельницы, маслобойни, сыроварни, винокуренные и крахмало-паточные заводы и т. п.), страховые взносы уплачиваются:

а) в размере десяти процентов на заработную плату, если в этих предприятиях занято не больше шестнадцати рабочих при наличии механического двигателя или не больше тридцати рабочих при отсутствии такого двигателя;

б) по соответствующему разряду нормального тарифа в зависимости от опасности и вредности, если в этих предприятиях занято более шестнадцати рабочих при наличии механического двигателя или более тридцати рабочих при отсуствии такого двигателя.

7. За лиц, работающих по найму в торговых предприятиях (магазинах, лавках, конторах, складах и т. п) коллективных хозяйствах, взносы на социальное страхование уплачиваются по соответствующему разряду нормального тарифа в зависимости от опасности и вредности.

## II. Регистрация крестьянских хозяйств, для которых социальное страхование является абязательным

8. Крестьянские хозяйства, работники которых подлежат обязательному социальному страхованию, обязаны зарегистрироваться в страховых органах независимо от того, на какой срок они нанимают работников.

Сроки и порядок регистрации устанавливаются окружной (или соответствующей ей страховой) кассой, форма регистрационного заявления устанавливается Главсоцстрахом НКТ соответствующей союзной республики.

9. По окончании срока регистрации, страховой орган проверяет списки, составленные на основании поступивших регистрационных заявлений.

При этом страховой орган пользуется данными финансовых инспекторов, райисполкомов, сельсоветов, органов профсоюза сельскохозяйственных и лесных рабочих и т. п. и включает в списки дополнительно незарегистрировавшиеся хозяйства, работники которых подлежат обязательному социальному страхованию.

### III. Заключ. договоров о добровольн. страх.

10. Трудовые крестьянские хозяйства (ст. 2), желающие застраховать в добровольном порядке лиц, работающих у них по найму, подают об этом в страховую кассу заявление-обязательство.

Форма его устанавливается Главсоцстрахом НКТ соответствующей союзной республики.

11. Договор о добровольном страховании заключается на срок определенный, но не более чем на один год.

12. Страховые кассы не принимают добровольного страхования лиц, которые нанимаются на определенный срок менее одного месяца, или на время выполнения работы, которая должна продолжаться менее одного месяца.

### Исчисление и взимание взносов на социальное страхование

13. Страховые взносы за лиц которые работают по найму в предприятиях кулацких хозяйств, и за лиц, указанных в ст. ст. 5—7, исчисляются со всей фактически выплаченной заработной платы на общих основаниях.

14. Страховые взносы за лиц, указанных в ст. ст. 1—4 (кроме работающих в предприятиях кулацких хозяйств), исчисляются в следующих размерах:

| При месячной заработной плате | Размер месячн. взноса за каждого застрахованного | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | По тарифу 8проц | | По тарифу 10проц. | | По тарифу 6 проц. | | По тарифу 3 проц. | |
| | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. |
| До 13 р. | 2 | 20 | 1 | 20 | — | 70 | — | 40 |
| Свыше 13 р. „ 15 „ | 2 | 50 | 1 | 40 | — | 80 | — | 40 |
| „ 15 „ „ 17 „ | 2 | 90 | 1 | 60 | 1 | — | — | 50 |
| „ 17 „ „ 19 „ | 3 | 20 | 1 | 80 | 1 | 10 | — | 50 |
| „ 19 „ „ 21 „ | 3 | 60 | 2 | — | 1 | 20 | — | 60 |
| „ 21 „ „ 23 „ | 4 | — | 2 | 20 | 1 | 30 | — | 70 |
| „ 23 „ „ 25 „ | 4 | 30 | 2 | 40 | 1 | 40 | — | 70 |
| „ 25 „ „ 27 „ | 4 | 70 | 2 | 60 | 1 | 60 | — | 80 |
| „ 27 „ „ 29 „ | 5 | — | 2 | 80 | 1 | 70 | — | 80 |
| „ 29 „ „ 32 „ | 5 | 50 | 3 | - | 1 | 80 | — | 90 |
| „ 32 „ „ 35 „ | 6 | — | 3 | 30 | 2 | — | 1 | — |
| „ 35 „ „ 38 „ | 6 | 60 | 3 | 60 | 2 | 20 | 1 | 10 |
| „ 38 „ „ 41 „ | 7 | 10 | 3 | 90 | 2 | 40 | 1 | 20 |
| „ 41 „ „ 45 „ | 7 | 70 | 4 | 30 | 2 | 60 | 1 | 30 |
| „ 45 „ „ 49 „ | 8 | 50 | 4 | 70 | 2 | 80 | 1 | 40 |
| „ 49 „ „ 53 „ | 9 | 20 | 5 | 10 | 3 | 10 | 1 | 50 |
| „ 53 „ „ 58 „ | 10 | — | 5 | 50 | 3 | 30 | 1 | 70 |
| „ 58 „ „ 63 „ | 10 | 90 | 6 | — | 3 | 60 | 1 | 80 |
| „ 63 „ „ 69 „ | 11 | 90 | 6 | 60 | 4 | — | 2 | — |
| „ 69 „ „ 75 „ | 13 | — | 7 | 20 | 4 | 30 | 2 | 20 |
| „ 75 „ „ 85 „ | 14 | 40 | 8 | — | 4 | 80 | 2 | 40 |
| „ 85 „ „ 95 „ | 16 | 20 | 9 | — | 5 | 40 | 2 | 70 |
| „ 95 „ | 18 | — | 10 | — | 6 | — | 3 | — |

В заработную плату, по которой определяется размер страховых взносов включается как денежное, так и натуральное вознаграждение указанное в трудовом договоре. В заработную плату не включается стоимость предоставляемых работникам жилья и рабочей одежды.

15. Целевая надбавка на рабочее жилищное строительство к страховым взносам, оплачиваемым согласно настоящим правилам, не взимается.

Равным образом с этих взносов страховые органы не производят отчислений на рабочее жилищное строительство.

16. По определении, на основании имеющихся у страхового органа данных размера страховых взносов, страховой орган посылает нанимателю письменное извещение, в котором указывает: а) размер взносов за каждую группу работников: б) основание для установления данного размера взносов; в) число работников, за которых взносы должны уплачиваться; г) сумма заработной платы, с которой взносы должны исчисляться; д) сроки и места уплаты взносов.

В извещениях, помимо этого, должно быть указано, что наниматель о всех изменениях в количестве наемных работников и сроках найма обязан в недельный срок сообщать страховому органу, который в необходимых случаях соответственно изменяет установленный размер взносов.

Извещение вручается нанимателю под расписку на копии извещения и является расчетным листом, по которому уплачиваются страховы взносы,

17. Страховые взносы уплачиваются в сроки, устанавливаемые страховыми кассами:

а) коллективными хозяйствами—за каждый истекший месяц;

б) прочими крестьянскими хозяйствами и земельными обществами—за каждый месяц вперед.

Окончательный расчет с нанимателем, уплачивающим взносы вперед, производится за каждый месяц в следующем за ним месяце.

18. Страховые взносы уплачиваются нанимателем за их собственный счет

